 

### Пуцяводныя думкі

Чалавек складаецца не толькі з прыроджанага, але і з засвоенага.

*І. Гётэ*

Розумам можна здабыць багацце, а багаццем розуму не назапасіш. Невук хутка збяднее, а розум ні злодзей не можа ўкрасці, ні вада, ні агонь не могуць знішчыць.

*Кабус*


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 36 (1019) ГОД XX 7 ВЕРАСНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.






Нафтавікі ідуць на змену (чытайце на стар. 2 фотарэпартаж «Горад і нафтагіганты»).

## ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

Тры месяцы на старонках „Нівы“ безупынна ішла ажыўленая дыскусія над важнай для беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне праблемай **„Чаму дзіця не вучыцца роднай мове“.** З глыбокім адчуваннем павагі справы і са зразумелым хваляваннем і трывогай за сучасны стан і далейшы лёс навучання беларускай мове выказваліся актывісты БГКТ, настаўнікі, пісьменнікі, журналісты, бацькі. І хоць часам некаторыя выказванні адыходзілі крыху ад тэмы і ў жары дыскусіі не захоўвалі належнага тону, усе яны сведчылі аб тым, што гэтая справа іх аўтарам ляжыць глыбока на сэрцы, і яны згодна сцвярджалі: **усе дзеці беларусаў павінны вучыцца роднай мове.**

Пры гэтым справядліва падкрэслівалася, што народная ўлада ў нашай краіне, паслядоўна ажыццяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку, стварыла неабмежаваныя магчымасці і прыхільныя ўмовы для ўсіх нацыянальных меншасцей, пражываючых у Народнай Польшчы, развіваць свае прагрэсіўныя культурныя традыцыі, карыстацца роднай мовай і навучаць ёй у школах на кошт дзяржавы. Гэта вялікі здабытак нашага сацыялістычнага ладу і прывілей, які гарантуе поўнае раўнапраўе ўсіх народаў, іх моваў і культур. Ён дадзен таксама і нам, беларусам. Але, на жаль, далёка не ўсе мы хочам карыстацца ім. Чаму? Было названа многа прычын.

Сярод іх нават быццам існуючая ў беларускай меншасці самапагарда да ўсяго роднага, пры гэтым уласцівая перш за ўсё сялянскаму асяроддзю. Абвінавачванне цалкам несправядлівае. Яму пярэчыць факт, што свядомасць патрэбы навучання дзяцей роднай мове дагэтуль найбольш трывалая і моцная якраз у сялянскім асяроддзі. Там знаходзіцца падаўляючая большасць школ, у якіх выступае навучанне беларускай мове. А ў гарадскім і маламестачковым яна слабая, і таму не было і няма навучання роднай мове ў пачатковых школах і ліцэях у Саколцы, Дуброве Беластоцкай, Сямяцічах, Драгічыне, няма яго ў гмінных школах у Крынках, Заблудаве, Боцьках, Мельніку і шэрагу іншых, заняпала яно таксама ў зборнай гміннай школе і ліцэі ў Міхалове. І не выпадкова, бо і ў цэнтры ваяводства, горадзе Беластоку, таксама няма ніводнай пачатковай школы і ніводнага ліцэя, дзе б выкладалі беларускую мову.

ГЭТА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС!

І ў выказваннях у „Ніве“, і ў прыватных размовах чуваць было галасы, што навучанне беларускай мове перашкаджае лепшаму авалоданню дзецьмі польскай мовай і што ўзровень польскай мовы ў школах, дзе выступае беларуская мова, слабейшы, чым у школах, дзе яе няма. І гэта быццам перашкаджае дзецям, што вучыліся беларускай мове, у далейшай вучобе ў сярэдніх і вышэйшых школах. І тут адказ просты. Па-першае, ніколі і нікому веданне адной мовы не перашкаджала ў валоданні іншай мовай, больш таго, гісторыя сусветнай культуры пераканаўча паказвае, што ўсе выдатныя грамадскія дзеячы, вучоныя, пісьменнікі, мастакі і іншыя людзі, што ўнеслі і ўносяць свой выдатны ўклад ў развіццё чалавецтва, валодалі і валодаюць сама меней дзвюма-трыма мовамі і гэта не толькі ім не перашкаджае, але наадварот — спрыяе іх актыўнай дзейнасці. Па-другое, узровень навучання польскай мове ў школах, дзе выступае навучанне беларускай мове, а таксама авалоданне польскай мовай дзяцьмі, што вывучаюць беларускую мову, залежыць выключна толькі ад узроўню і працы настаўніка-паланіста ў данай школе. Педагогіка наогул і методыка выкладання польскай мовы ўвачавідкі і бясспрэчна даказвае, што ў **руках светлага і належна падрыхтаванага настаўніка-паланіста веданне вучнямі іншай славянскай мовы якраз вельмі карысна дапамагае дзецям дасканала авалодаць польскай мовай.** Значыць, асветныя ўлады павінны звярнуць увагу перш за ўсё

(Працяг на стар. 2)

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

Прышлюць паперку... ● Альховая кладка ● Бура над Індыяй ● Помнік несмяротным героям ● З маёй званіцы ● Дзе жыць бабулі Параскеве? ● Смачны хлеб у Нараўцы ● Весткі з Міхалова, Храбалоў, Краснага Сяла, Орлі, Бельска, Катлоў, Піражкоў, Гайнаўкі, Чыжоў, Бабікаў, Зубава, Малых Тыневіч ● Калі прысніцца залатое кальцо ● песня „Komu weselne dzieci“.

## ЗАЯЗДЖАЙЦЕ Ў „ПАДЛЯСЯНКУ“

Вельмі лёгка трапіць. Знаходзіцца яна ў цэнтры Бельска Падляшскага па вуліцы Міцкевіча, каля невялічкага, але даволі прыемнага парку. Заязджайце, месца хопіць. Зал рэстарана памяшчае сто чалавек. Летам дастаўляюць яшчэ 24 месцы на свежым паветры пад прыгожымі каляровымі парасонамі. Вельмі прыемна. Сядзіш, схаваўшы голаў ад сонца пад каляровы „капялюш“, ды дыхаеш на поўныя грудзі, спаглядаючы адначасова ў парк, з якога міргаюць сваімі чырвона-белымі вачыма ружы. І чаго ж тут лепшага шукаць? Прыязджайце. Ды не толькі на паветры, у зале таксама прыемна. Назва рэстарана зусім не выпадковая. Яна цесна звязана з дэкарацыяй залы. Нават вопратка афіцыянтак — народная, падляшская.

Рэстаран даволі малады. Адкрылі яго 20 красавіка 1970 г. Усяго толькі шосты год пайшоў. Аднак, відаць, дасягненні залежаць не ад гадоў, а ад добрай работы. А тут яе шмат. „Падлясянка“ ўвесь час рэнтабельная. Месячныя абароты даходзяць аж да 650 тыс. злотых. Кіраўнік Яўгенія Аляксеюк і яе намеснік Зыгмунт Жукоўскі дбаюць пра гэта. Стараюцца зашпіліць усё на апошні гузік.

Кухня рэстарана працуе на тры змены. Апрача абслугоўвання ўласных спажыўцоў забяспечвае яна гастранамічнымі вырабамі бар і 17 прадуктовых магазінаў. Ад кастрычніка да сакавіка кожнага года высылае каля 1 000 порцый гарачага супу на паасобныя прадпрыемствы. Цяпер, у час летняга водпуску, давозіць уласным транспартам і ва ўласных тэрмасах штодзённа па 60 абедаў на пункт адпачынку ў Плёсках.

Рэстаран працуе ад 11 гадзіны раніцы да 11 гадзіны вечара. Летам, у сувязі з напружаным турыстычным рухам, бывае адкрыты нават ад $7^{30}$, калі для экскурсій заказваюць снеданне.

(Працяг на стар. 4)



 




## ЛЯВАЦТВА

У маі гэтага года такійскае паліцэйскае ўпраўленне арыштавала групу тэрарыстаў. Ім прад'явілі абвінавачанне ў арганізацыі выбухаў самаробных бомб у памяшканнях розных буйных кампаній. Выявілася, што трое з васьмі тэрарыстаў — Масасі Дайдодзі, Марыка Аран і Тасіакі Катаокі — пачыналі сваю дзейнасць як актывісты „камітэта класавай барацьбы", створанага ўльтралевымі элементамі ва універсітэце „Хасей" у Токіо. Дайдодзі, адзін з кіраўнікоў камітэта, неўзабаве кінуў вучобу, каб стаць адным з „прыгнечаных працоўных", гэта значыць пралетарыем. Сярод часткі японскіх студэнтаў распаўсюджана імкненне „далучыцца да пралетарыяў", каб атрымаць, як яны лічаць, „маральнае права" выступаць ад іх імя.

Восенню 1973 года Дайдодзі і яго таварышы стварылі арганізацыю пад гучнай назвай „антыяпонскі ўзброены фронт Усходняй Азіі". Сваёй галоўнай мэтай яна лічыла тэрарыстычныя акты.

Адна з найбольш экстэрмісцкіх груповак называе сябе „чырвонай арміяй" (!). Яна заявіла аб сабе асабліва гучна тры гады таму назад. Тады ў ваколіцах Токіо ў гарах былі знойдзены 14 знявечаных трупаў юнакоў. Яны сталі ахвярамі ўнутраных спрэчак у гэтай арганізацыі.

У апошні час колькасць ультралевых, маладзёжных арганізацый, у прыватнасці ў Японіі, у некаторых краінах Заходняй Еўропы і Паўднёва-Усходняй Азіі, зноў пачала расці.

Зразумела, нельга лічыць, што ўсе ўдзельнікі ультралевых груповак з'яўляюцца па сваіх перакананнях анархістамі і мааістамі. Многія з іх шчыра імкнуцца змагацца за звяржэнне буржуазнага ладу. Аднак з-за адсутнасці сур'ёзнай ідэалагічнай падрыхтоўкі яны выбіраюць няправільны шлях барацьбы. Адсутнасць ва ўльтралевых элементаў дакладнай палітычнай арыентацыі, глыбокага разумення сучасных мэт і задач непазбежна прыводзіць да таго, што частка з іх даходзіць да актаў бандытызму і да звядзення крывавых разлікаў паміж сабой.

Кіруючыся тактыкай „разбурэння устояў" і ліквідацыі прадстаўнікоў буйнай буржуазіі, ультралевыя экстэрмісты не прымаюць пад увагу магчымыя ахвяры ні ў чым не вінаватых людзей. Так, напрыклад, у час абстрэлу вясной 1974 года трыма членамі японскай „чырвонай арміі" аэрапорта Лід у Ізраілі загінула 26 чалавек, большая частка якіх былі паломнікі, што прыбылі з Лацінскай Амерыкі ў Іерусалім.

Неабдуманыя дзеянні ультралевых, якія часта носяць правакацыйны характар, як правіла, скарыстоўваюцца рэакцыйнымі сіламі для наступлення на правы працоўных. Не выпадкова буржуазная прапаганда ўпарта спрабуе атоесаміць мааістаў і іншыя лявацкія элементы з камуністамі. Такім шляхам буржуазія імкнецца выклікаць у насельніцтва варожыя адносіны да кампартый, да ўсіх прагрэсіўных сіл. Кожны такі акт ва ўсіх дэталях смакуецца заходнімі органамі масавай інфармацыі як найбольш нагляднае праяўленне „камуністычнай пагрозы".

**Ю. Кім**

(Працяг са стар. 1)

## Гэта залежыць ад нас

на павышэнне ўзроўню навучання польскай мовы, а настаўнікі-паланісты дбаць пра свой прадмет і скарыстанне вучнёўскіх ведаў, атрыманых на ўроках беларускай мовы. Гэта адзіны правільны і надта плённы шлях, што вядзе да выдатных вынікаў у навучанні і выхаванні.

У дыскусіі былі паказаны многія іншыя прычыны, што перашкаджаюць навучанню беларускай мовы. Усе гэтыя прычыны павінны ліквідаваць асветныя ўлады. У іх моцы — ачысціць шлях для неабмежаванага навучання беларускіх дзяцей іх роднай мове і стварыць да гэтага самыя прыхільныя ўмовы. Не можа ж быць пакінута справа навучання роднай мове ўбаку. Як паказала дыскусія, самая вялікая роля ў тым, каб **кожнае беларускае дзіця ахвотна вучылася сваёй роднай мове**, належыць да кожнага з нас, беларусаў, да ўсіх членаў, дзеячоў і прыхільнікаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, да ўсіх бацькоў.

**Мікалай Гайдук**





*Адна з вуліц горада.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ГОРАД І НАФТАВІКІ

Кіламетрах у васьмі ад старажытнага беларускага горада Полацка распрасцёр свае кварталы новы белакаменны горад. Ён пабудаваны рукамі маладых, вырас там, дзе шумелі жытнія палі, прэлі дрыгва ды балота. Падкрэсліваючы сваю блізкасць да старога Полацка, узведзенага многімі пакаленнямі жыўшых тут людзей, ён названы Новапалацкам.

Разам з горадам тут выраслі нафтаперапрацоўчы завод і аграмадны хімічны камбінат. Усё гэта і ператварыла колішнія ціхія вясковыя аселіцы ў краіну вялікай хіміі.

На сотнях гектараў раскінулася тэрыторыя нафтаперапрацоўчага завода-гіганта. І хоць гэтае прадпрыемства называецца заводам, у яго цэхах пабываць нельга. А чаму ж нельга? Іх няма ў звычайным разуменні гэтага слова. Тут ёсць кіламетры трубаў, якія бягуць па эстакадах або схаваны ў зямлю, ёсць гіганцкія металічныя калоны атмасферна-вакуумных трубчатак, установак для вытворчасці параксілолу, ёсць салідных памераў збудаванні на сыравіну і гатовыя вырабы. Ёсць таксама пульты дыстанцыённага кіравання. Тэхналагічны працэс праходзіць пры высокіх ціесках і тэмпературах — у замкнутым памяшканні, схаваны ад чалавечых вачэй. Але дзякуючы тэлеаўтаматыцы чалавек можа сачыць за ім.

Аўтаматызацыя дазволіла заняць пры перапрацоўцы мільёна тон нафты ў два з лішнім разы людзей менш, чым у сярэднім у гэтай галіне вытворчасці. Таму і вынікі на аднаго працуючага ў два разы вышэй, чым у сярэднім у краіне на прадпрыемствах такога тыпу.

Адносна хімічнага камбіната, дык гэта таксама складаны і гіганцкі комплекс разнастайнай вытворчасці. Толькі ў адным корпусе, дзе памяшчаюцца цэхі мяшання і апрацоўкі поліэтылену, свабодна могуць змясціцца восем 90-кватэрных жыллёвых дамоў.

Цяпер аб горадзе нафтахімікаў. Яго кварталы прасціраюцца на правым беразе Заходняй Дзвіны. У ім няма прадмесцяў з маленькімі драўлянымі домікамі. Шматпавярховыя гмахі пабудаваны на паляне, абрамаванай зялёным пярсценем хвойнага лесу. І кожны дом тут мае свой твар не падобны на іншыя. Галоўная плошча горада названа Плошчай будаўнікоў у гонар працоўнага подзвігу, здзейсненага імі сярод лясоў і багнаў на поўначы Беларусі.

Сярэдні ўзрост жыхароў — 27 гадоў. Тут рэдка сустрэнеш старога чалавека. А па колькасці прыходзячых на свет новых грамадзян займае адно з першых месц у Савецкім Саюзе.

Новаполацкія гіганты растуць і развіваюцца. А людзі, што працуюць у іх, імкнуцца павялічыць славу беларускіх нафтахімікаў.

**К. Грыгор'еў**
**фота Э. Трыгубовіча**



*У цаху палімерызацыі хімкамбіната.*



*Маладажоны не рэдкасць на вуліцах горада*




**Sobota 6.IX.** 15.35 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Tempo. 17.00 Sobota Młodych. 17.50 Wszystko za wszystko. 18.55 Zlot Młodzieży — Koszalin. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.35 Sidła — film fab. ang. 22.20 Dziennik. 22.40 Rewia Targowa — pr. muz. 23.25 Transmisja indywidualnych Mistrzostw Świata na żużlu.

**Niedziela 7.IX.** 8.35 Pr. dnia. 8.40 Antena. 9.00 TELERANEK. 9.55 Centralne Dożynki — transmisja. 12.30 Dziennik. 12.50 Operowe Qui pro quo. 13.40 Wielka gra. 14.45 Mazurki Chopina. 15.00 Wilk morski. 16.15 Los. Toto-Lot. 16.35 Wincenty — rep. film. 18.25 Sport. 16.45 Róże Montreux — Burt Bacharach — opus nr 3. 19.05 Impresja filmowa. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobranoc dla dor. 20.25 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.20 W starym kinie — wyd. spec. — ADOLF DYMSZA. 22.50 Sport.

**Poniedziałek 8.IX.** 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Obiektyw. 16.45 Zwierzyniec. 17.30 Echo stad. 17.50 Dzień po dniu — film ser. radz. 18.45 Mam pomysł. 19.05 Przemówienie Amb. Bułgarii. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: A. Fredro — Dożywocie. 21.35 Świadkowie. 22.10 Dziennik. 22.30 Sport. 22.40 Przeminęło z wiatrem — pr. muz.

**Wtorek 9.IX.** 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dziennik. 16.35 Obiektyw. 16.55 Nie tylko dla pań. 17.20 Na wielkim i małym ekranie. 17.50 Studio Mł. 18.40 Fakty, Op., Hip. 19.10 Wyst. Amb. KRLD. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 22.25 Nie ma miejsca na sentymenty — film fab. ang. 22.00 Interstudio. 22.45 Dziennik. 23.05 Sport.

**Środa 10.IX.** 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Obiektyw. 16.50 Dla dzieci. 17.20 Sport. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Burza nad Azją — film fab. radz. 21.50 Czym żyje świat. 22.20 Dziennik. 22.40 Sport.

**Czwartek 11.IX.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.15 Zagadka dla widzów. 18.20 Spotkanie z medycyną. 18.50 Wrzesień nad Bzurą — pr. publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Śmierć wybiera — film fab. CSRS. 21.55 Pegaz. 22.30 Dziennik. 23.00 Sport.

**Piątek 12.IX.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Latający Holender. 18.05 Inf. Wyd. 18.20 Mała Encyklopedia Zwierząt — film. ser. fr. 18.55 Sezam. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Kwiaty w Łazienkach — film muz. 20.40 Panorama. 21.20 Teatr Małych Form: ALLENDE. 21.50 Gospodarność i ja. 22.05 Opera — pr. muz. 22.35 Dziennik. 22.50 Inf., Tow., Prop. 23.00 Sport.




**Piątek 5.IX** — 8.00 Film fab. 13.55 W eterze Młodość. 14.25 Film fab. 17.05 Koncert. 17.50. Film fab. 19.30 Tańczy Maja Plisiecka. 20.45 Wieczór operetki.

**Sobota 6.IX** — 8.00 Film fab. 12.00 Hokej. Dynamo (Moskwa) — Spartak. 14.20 W świecie zwierząt. 15.20 Film dok. 16.15 Film anim. 16.35 Piosenka — 75. 16.55 P. nożna. CSKA — Dynamo (Moskwa). 2 połowa. 17.45 Film fab. 19.35 Sopot — 75.

**Niedziela 7.IX.** — 12.45 Hokej. Skrzydła Rad — CSKA. 2 i 3 tercje. 14.15 Międzynar. panorama. 16.15 Filmy anim. 16.45 Koncert muz. lud. 16.55 Klub film. 17.55 Teatr miniatur. 19.30 Wielka symf. ork.




**Białowieża** Zwycięstwo — pol. 9—10. Grzech Katarzyny — czes. 11—12. Ostatni nabój — rum. 13—14.

**Czeremcha** Dzień lwicy z buszu — ang. 9—10. Ziemia obiecana — pol. 13—14.

**Czyże** Dowódca armii — radz. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 10—14.

**Dubicze Cerkiewne** Zazdrość i medycyna — pol. Kasztany miłości — wł. 10—14.

**Gródek** Zwycięstwo — pol. 13—14.

**Kleszczele** Byłam głupią dziewczyną — węg. 9—10. Weronika w kraju czarów — fr. 11—12. Kochankowie roku pierwszego — rum. 13—14.

**Michałowo** Ned Kelly — USA 9—10. Znikający punkt — USA 11—12. Nie ma róży bez ognia — pol. 13—14.

**Narew** Dowódca łodzi podwodnej — radz. Wakacje we czworo — wł. 10—14.

**Nurzec** Spojrzenie na wrzesień — pol. 9—10. Noc na karlsztejnie — czes. 11—12. Hubal — pol. 13—14.

**Orla** Człowiek, który przestał palić — szwedz. Zaczarowane podwórko — pol. 9—14.

**Suchowola** Aresztują cię przyjacielu — USA. Hrabina Cosel — pol. 9—14.

B.Z.Graf. Zam. 2094. P-1.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 200

* ✲ *

*У адной руцэ*
*ты прынесла мне боль*
*а ў другой*
*раскошу*
*чаго было ў далонях больш*
*тут не палічыш*
*тут не грошы*
*усё з далоняў я злізаў*
*і стаў не тым чым быў*
*у радасць капнула сляза*
*у смутак смех прыплыў*
*акутала душу мяцель*
*і перастаў я разбірацца*
*ці я ўпаў*
*ці узляцеў*
*ці стаў царом*
*ці стаў паяцам*

**Алесь Барскі**

## Помніш

А паспрабуй быць
учарашнім
Убачыш — ці гэта добра
аглядаць
кікуты дамоў
адзінокіх у сваім
вандраванні
да пустога неба

І вачэй
нідзе не падзець
яшчэ раз

Быць ранкам
яшчэ перад усходам сонца
поўднем
без дыхання
змярканнем
сланяўшымся
на стомленых да канца нагах

Паспрабуй быць
яшчэ раз
далёкім днём учарашнім
запыленым цвердым і ясным
Рэч у тым
што нялёгка

* ✲ *

Ты сённяшнім
стаіш моцна сярод іншых
не губіўшы мінуты
Гэта ты быў учарашнім
Помніш

Бачыш гэты вялікі дом
што стаіць на скрыжаванні
Кветкі з агародаў
просяць — дай вады
А глянь на неба
воблачка белае
— мокрая лебядзіна
бясшумна пасоўваецца
па спакойнай гладзі

Бачыш...
Помніш...

**Ірэна Баравік**

## Суніцы

*салодкія, салодкія суніцы*
*кроплі сонца на яснай паляне*
*суніцы*
*п'юць сонца дрыжаць*
*сонныя як цяжкі мёд*
*салодкія салодкія суніцы*
*былі*
*соль збіраецца ў горле*
*слёзы*

**Міра Лукша**

* ✲ *

Ступае
патрывожаны як сон
натуры чалавечай
вырай
адгукаецца на дне
з'ядлівай усмешкай
дакучае
прыміляецца пялёсткамі
дзікай ружы
каб жыць у бяздонні —
шчырага слова.

**Л. Танкевіч**

## Лета ў Мокрым

Таню з сынам правёў я на вакзал. Яна ў працісонечных акулярах, пабялелая. Сын прыглядаецца да паравозаў, да цэлай гэтай фабрыкі падарожжаў.

— Шчаслівай дарогі! — кажу, і сын не чуе.

— Тата! — сказаў сын. Хацеў штосьці сказаць, забыўся ў вакне.

Свістаў паравоз.

Я выйшаў з купэ, пакідаючы дзверы расчыненымі. На пероне, на гэтым пляжы развітанняў, прыпякала адзіноцтва: Таня з сынам ад'ехалі. Яны яшчэ тут жа, побач, але яны ўжо ад'ехалі, бо я ўжо на пероне...

Зачыніў дзверы.

Цягнік даедзе да Чаромхі на беларускай граніцы: Таня з сынам выйдуць на другім прыпынку за Бельскам, насупроць царквы. Выйдуць у пах поля...

Узяла злосць: дурань развaліў возера, у канцы Дайлідскай! Засталіся сажалкі, да якіх высокая грэбля ад старога дома, дзе мяжа Беластока. У верасні, у першую нядзелю верасня, сыны бегалі па грэблі, захлістваючыся сонцам. Адзенне пахавалі — у траве пад бярозаю, далёка. За таблiцаю „Купацца забаронена" я распрануўся дагала і паплыў у кут вады, наспелай цеплынёю. Дзікія качкі вызверыліся на мяне і, адна за другою, зніклі ў чаротах, вывадак. Далёка — сыны ў верасні. Ля дна — восень, карпы-гультаі, ад іхняга гультайства неяк смакавіта, смакавіта... Бяроза пахілая-пахілая, без надзеі. Сын, патрывожанае мядзведзяня, глядзіць у мой бок, і крычу яму, што я тут! Гэй, якая пекната! І ўтульна, мабыць, ад таго, што відаць дно, відаць водарасці і рыбы, бачу нават схаваўшыхся качак. Ад спакою круціцца ў галаве...

Цягнік усё не ад'язджае: спадабалася спазняцца.

... Было гэта... У якім гэта годзе была такая цёплая восень, калі здавалася, што смутак — выдумка дурных! Ці не ў сямідзесятым?.. Няхай едуць у Мокрае, няхай правядуць лета ў Мокрым. Абы не ў Беластоку... Мо будзе ім, сынам маім, лета гэтае падобнае да майго лета ў матчынай Барсуковіне. Бачу хутар пад ялінавай пушчай, масла ў крынічнай вадзе, грыбы на сцяне, васкавіны з мёдам у цэбрыку, высокую грушу, сярпы за садам, цяпло гутаркі. Без беларускай гутаркі няма лета. Таму лета ў Мокрым будзе цудоўнае маім сынам...

— Таня, — кажу да жонкі, — не забудзьце схадзіць у лес...

Цягнік рушыў у дзевяць сорак сем.

**Сакрат Яновіч**

## Белавежская малітва

*стройная блакітнавокая Славянка*
*Белавежы залатавалосая Пані*
*скрытая ў бяздоннай Кнеі*
*там куды ляцяць жураўліныя чароды*
*з тугою за пажыўным дыханнем*
*за мінулага свету Пейзажам*

*Уладарка зялёных брам і блакіту*
*Каралеўна веж белых у небе*
*акрытых стагоддзямі зім і вёснаў*
*абнятых плячыма імглы таемнай*
*і звонкай цішынёю глыбокай*
*непарушанай Кнеі задумёным князем.*

*адгароджаная цішынёй бясконцай,*
*і святымі дзвярыма свайго Каралеўства*
*прынясі на дрыжачых жураўліных*
*струнах*
*найцішэйшы стукат Зямлі і сэрца Кнеі*
*бессмяротную Паэзію іх задумёнасці*
*о! Белавежы таемнай Пані*

**Юрый Баена**

* ✲ *

Налі яшчэ, чаромха,
Вясны дзве поўных шклянкі.
Дай стукнемся і вып'ем,
Пакуль далёка лета,
Ды лодкаю дзіравай
Сплывем ў сухое мора.
Ці помніш гады-мары,
З якіх клікнула заўтра?
Пэўна, цяпер ў калысцы,
Спавітыя ў тумане,
Праз сон слухаюць песню
Пра бурага ката...
А можа недзе ходзяць
Зялёнымі лугамі,
Шукаюць ў вадзе неба
Ды гоняць небасхіл...
Ты кажаш, яны з бабкай
Сядзяць у белым садзе,
Услухоўваючысь ў казку
Пра шэрага ваўка?
Узаранай мчацца нівай?
Крапівай пякуць ногі?
За хвост хапаюць вецер,
Гонячы матылька?
Не, мне здаецца, плачуць
Пад лысаю бярозай,
Што некалі зялёнай
Стаяла, як сасна...

**Міхась Шаховіч**

## ЙЕ ТАКІ ГУСТ

*Што то йе?*
*На языці сторчат*
*ідэальны слова.*
*— Самы сэбэ ныколі нэ оцэнім.*

✲

*Дівчына „з-под слупа"*
*выгінаецця*
*з усміешкою,*
*Плюе*
*на мілосны нэудачы.*

✲

*— Однако йе такі гэст*
*з потом і кровлею,*
*Нэ всё одразу познаеш.*

✲

*Нуоч котора*
*сповніт*
*і розвяжэ*
*В целум світы*
*любов твого світа.*
*Останэцця*
*як гострій сэрпа,*
*Пуд которым*
*хілілось*
*зэлёнэ.*

✲

*І одыйдэш*
*нэсучы на шыйі*
*вінок з чужых губ.*
*Будэш вспомынаты*
*тіень*
*на розвэрняному луожку.*

**Іван Кірызюк**

## УВАХОД У ПАЭЗІЮ

(1)

бранне грыбоў
— бранне рыб
— бранне паэзіі

за карэнні
— за вушы
— за страўнік
і пячонку

хаця пульсуе крывёю
яблыка па апошняе зярнятка
не распараджаецца вясна

тут права караля Гароха
у сарака і чатырох артыкулах
плюс яшчэ некалькі законаў
недабіткаў
аб забароне ўжывання
слоў тэрмаядзерных

паэзія была
паэзія ёсць
паэзія будзе

рукою што агонь
агнём што руку

(2)

уваходзяць па пяру
усе рыбы на бязрыб'е
будзе вялікае жыццё
большае чым Вялікі Панядзелак
як не зрабіць
тут палявання
які рак тут
нагу падстаўляе

як патокам пасцялю
так водагрукнуць

вада выкідае камень
вада і забірае камень
Каін і Абель
Абель і Каін.

**З. Сачко**

## ЛЮБІЛА МАМА АПЕЛЬСІНЫ

*Памяці Маці*

Чакала мама заўжды сына
Да самай старасці сівой.
Любіла мама апельсіны,
Што часам сын прывозіў ёй.

Чакала мама доўга сына
З далёкіх гарадскіх дарог.
Жыцця апошняга хвіліны...
Смерць уваходзіць на парог.

Не ела мама апельсінаў.
Па кропельцы сачыўся сок
На вусны смаглыя. Ад сына
Апошні выпіла глыток.

**Віктар Швед**

* ✲ *

Перасадзілі
буду
помніць
ствол шурпаты
чарназём
на карэннях
сонца
заглядала
у вокны
ніў цікавага
тата
яму капаў
мама зямлю
згартала
убівала
ля гумна
пасадзілі
ля плоту
буду помніць
спытаюць —
— скажу
тата яму
капаў
зямлю
мама
згартала
хто спытае
у вуль
апусцелы
не заўжды
вяртаецца
рой.

**Вераніка Леанюк**

* ✲ *

Гадзіннік вычыркаў чатыры. Ён прачнуўся. Далоні нецярпліва высунуў з-пад коўдры, быццам адганяў сон. Падумаў: такая цішыня, каб хаця не пайшоў дождж... Асцярожна нацягваў кашулю, каб не абудзіць маці. Цяжка ўздыхнуў ў адказ на стогн старога бацькі.

Адчыніў дзверы на двор і з шчаслівай ўсмешкай глядзеў на бестуманнае неба і на цёплы ўсход сонца.

Пайшоў, як кожную раніцу, да кароў, каня... Ён любіў вітацца лагодным дотыкам рукі, ціхім „дзень добры". Ухадзіўшыся з жывёлай, панёс малако ў малачарню. Прайшоў хутка каля групы гаспадароў (думаў, каб не затрымалі — няма часу). Мускулы цэлы дзень напружваліся. Усюды яго было поўна.

✲

Глянуў на гадзіннік: сем. Думкай закляў: халера, так хутка прайшоў дзень.

Балюча сціснулася сэрца (сягоння забава, а я такі змучаны).

Жыццё патрабуе — трэба даваць, і мацней зацiснуліся кулакі на рулі трактара.

**Ніна Гаўрылюк**

(Працяг са стар. 1)

# ЗАЯЗДЖАЙЦЕ Ў „ПАДЛЯСЯНКУ"

Дырэкцыя „Сполэм" ВСС — аддзяленне ў Бельску Падляшскім скім дбае аб усіх і аб усім. Выступала яна нават з ініцыятывай да начальнікаў гмін у Храбалах, Орлі, Боцьках, Бельску, Вышках і Бранску, што ў сезоне палявых работ можа забяспечыць рабочых, абслугоўваючых сельскую гаспадарку, двухблюдавымі абедамі (ад 25 да 30 зл. за адзін), якія будуць дастаўляць уласным транспартам.

У рэстаране працуе 17 кухарак і 7 афіцыянтак. Шэфам кухні, якая з'яўляецца самым сэрцам „Падлясянкі", з'яўляецца вопытная працаўніца Яўгенія Паплаўская. Усе працаўнікі адносяцца да работы вельмі сур'ёзна. Але ўсюды і заўсёды, нават сярод самых найлепшых знойдзецца выдатнік. На асаблівую пахвалу заслугоўваюць: Леўчук Вера — кухарка, Богдан Ядвіга — памочніца на кухні, Ляшчынская Ніна — памочніца на кухні, Якубюк Люба — памочніца на кухні, Хшаноўская Ірына — малодшая кухарка, Жукоўскі Вінцэнт, Ёлчук Ларыса, Часноўская Станіслава — афіцыянтка, Якубоўская Ірына — афіцыянтка і Дзенісюк Гражына — афіцыянтка.

Рэстаран „Падлясянка" ўжо тры разы прыступаў да агульнакраёвага конкурсу. Два разы заняў другое месца, аб чым сведчаць развешаныя на сценах дыпломы, а ў 1974 г. у гастранамічным конкурсе турыстычнага ілюстраванага магазіна „Святовід", які называўся „Сярэбраная патэльня" — першае сярод 11 раўназначных у краіне. „Сярэбраную патэльню", да якой далучылася дваццацітысячная грашовая ўзнагарода, заваявала за кураня ў белым віне і бульбяныя галушкі з начынкай, на якія камісія папрасіла рэцэпт.

Пасля заканчэння конкурсу рэстаран вярнуўся да свайго штодзённага жыцця. Кіраўніцтва ў апошні час імкнецца, каб тэраса была пакрыта пластмасавым дахам, які ахоўваў бы ад дажджу.

Не толькі добрыя стравы прыцягваюць людзей. Можна тут павесяліцца, патанцаваць. Тры разы ў тыдзень (аўторак, чацвер, субота) адбываюцца танцавальныя вечары. Аднаго толькі не хапае, а менавіта банкетнай залы. Маглі б там адбывацца розныя ўрачыстасці, такія, як вяселле ці іншыя. Не трэба было б тады займаць спажывецкай залы і замыкаць рэстаран. Думаю, што за такія дасягненні належыцца гэта „Падлясянцы".

**Міхась Шаховіч**

Фота **Я. Цялушэцкага**



*У зале рэстарана прыемна і ўтульна.*



*Смачныя абеды вараць кухаркі з „Падлясянкі". Пакуль іх пададуць на стол, смак страў правярае шэф кухні Яўгенія Паплаўская.*




## ЧАМУ ГЭТА ТАК?

Прачытаў я рэпартаж Мікалая Гайдука „Усім сэрцам", змешчаны ў „Ніве" ад 3 жніўня, і задумаўся.

Ірыны Навацкай я не ведаю (ведаю яе мужа). Але калі прачытаў я гэты рэпартаж аб ёй, стала мне яна вельмі блізкай і дарагой зямлячкай. Снаваў я думку аб усім гэтым і прыйшло мне да галавы пытанне:

Чаму гэта так?

Чаму гэта некаторым людзям патрэбна аж столькі змагацца за тое, што нам усім павінна быць самым дарагім, — за родную мову?! За ўсё тое, што называецца беларускім народам! Чаму нашы людзі саромеюцца сваёй мовы, мовы бацькоў і продкаў? Чаму не саромеюцца сваіх моваў іншыя народы? Француз не саромеецца таго, што ён — француз. Рускі не саромеецца таго, што ён — рускі. А беларус...

Каб аб гэтых прыкрых нам, беларусам, справах многа не пісаць, прывяду два, на мой погляд, вельмі характэрныя прыклады.

Сяргей К. з Беластока не толькі змяніў сваё прозвішча, але і пры кожнай нагодзе гаворыць, што беларускія школы нікому непатрэбныя і нікому непатрэбная гэта мова.

І другі прыклад. Аднойчы сустрэў я на беластоцкай вуліцы Астроўскага жанчыну, якая была са сваёй дарослай дачкою. Жанчына пытала ў мяне пра нейкі адрас, гаварыла яна па-беларуску. Дачка ж, пачуўшы матчыну мову, раптоўна пачырванела ад такой ганьбы і ўцякла ў пад'езд недалёкага дома. Калі я выказаў здзіўленне такімі паводзінамі яе дачкі, маці адказала: „Пане, яны ўсе такія. Як толькі выйдзе з дому, то ўжо і забывае аб тым, што выссала з малаком..."

Ці змаганне Ірыны Навацкай і падобных ёй дасць нейкія трывалыя вынікі? Бядовая справа вучыць чагось нежаданага...

Насоўваецца мне тут параўнанне з сажалкай, якая калісьці была ў Грабаўцы. Знаходзілася яна пасярод паплавоў ды альховых дрэў. Некалі глыбокая і грозная, яна з году ў год усё зарастала, зарастала і... зарасла. Цяпер і познаку па ёй няма. Чаму? Таму, што ніхто не клапаціўся аб ёй. Наадварот, замест яе пачысціць ды паглыбіць, завесці ў ёй гадоўлю рыбы, усе толькі і чакалі таго, калі яна ўжо, нарэшце, зарасце зусім!

Я, асабіста, вельмі хачу, каб шырылася беларуская мова ды развівалася беларуская культура, звінелі нашы цудоўныя песні, квітнела родная літаратура... Але сорамна сказаць, што і я не ўмею валодаць сваёй роднай мовай. Калі б не было рэдакцыйных папраўвак, вы, шаноўныя Чытачы, пабачылі б, як я калечу беларускую мову. Я ніколі не меў магчымасці вывучаць яе!

Цяпер у кожнай школе, дзе жывуць беларусы, ёсць магчымасць навучаць дзяцей роднай мове. Калі бацькі адмаўляюцца ад пасылання сваіх дзяцей на ўрокі роднай мовы, дык яны не ведаюць, што чыняць! Хто не дазваляе свайму дзіцяці вучыцца роднай мове, той як бы вырывае яму кавалак жывога языка...

**Васіль Петручук**




У „Доме кнігі", кнігарня № 9 у Гайнаўцы, вуліца 1 Мая 34, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Дарашэвіч Э. К., **„Філасофія эпохі Асветы ў Беларусі"**, 1971, стар. 248, цана 7 зл. 30 гр.

Навуковае даследаванне, прысвечанае распаўсюджанню ў Беларусі філасофскіх тэорый эпохі Асветы, поглядаў вучоных і мысліцеляў. Каштоўная манаграфія, якая асвятляе важны этап у гісторыі Беларусі.

**„Літаратурная Беласточчына"**, 1973, стар. 120, цана 5 зл. 20 гр.

Вядомы зборнік вершаў і апавяданняў творцаў, якія ўваходзяць у літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" пры Галоўным праўленні БГКТ.

Калюта Лукаш, **„Ні госць ні гаспадар"**, 1974, стар. 290, цана 6 зл. 50 гр.

Зборнік празаічных твораў беларускага пісьменніка, які жыў у гадах 1909 — 1937. Апрача апавяданняў („Цеснаватая куртачка", „Трахім — штучны чалавек", „Іллюк — даследчык" і „Тахвілін швагер") у кнігу ўвайшлі дзве аповесці: „Ні госць ні гаспадар" (1928 г.) і „Нядоля Заблоцкіх" (1929 г.). Зборнік цікавай прозы з часоў яе станаўлення і росквіту ў 20-30 гады.

Пысін Аляксей, **„Пойма"**, 1968, стар. 336, цана 10 зл. 10 гр.

Выбраныя вершы і паэмы сучаснага беларускага пісьменніка. У зборнік увайшлі, побач вершаў, таксама паэмы: „Белы камень", „Кара", „Жураўліны бераг", „...І ўсё магла...". Кніжка добрай паэзіі.

Кляўко Генадзь, **„Каб не сурочыць"**, 1971, стар. 104, цана 2 зл. 40 гр.

Зборнічак сакавітых гумарыстычных вершаў,, фельетонаў і мініяцюр, прысвечаных розным грамадскім і бытавым з'явам. Здаровы гумар і смех.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki" Księgarnia Nr 9, 17-200 Hajnówka, ul. 1 Maja 34.

(мг)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА



**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXI**

**Сібірская ссылка.** Пастаянным прыпевам амаль усіх сібірскіх вершаў Гаруна з'яўляецца думка аб вяртанні на радзіму. Беларусь — зялёнакосая дама вабіла, клікала чаравала ў вершы „Ночныя думкі". Сваю журбу, сваё імкненне да радзімы паэт выяўляе ў простай, але як жа эмацыянальнай дэкларацыі.

*Хочацца быць мне ў тым краі*
*нязменным,*
*Хочацца край той абняць з прастаты,*
*Хочацца крыкнуць: гэй, краю каханы,*
*Будзь мне, як маці, будзь родным*
*мне ты!*

Увесь верш „Ночныя думкі" — гэта мроя, гэта ўяўленне, гэта візія далёкага страчанага краю. Нічога дзіўнага, што ў гэтай начной візіі рэальнае пераплятаецца з фантастычным, праўдзівае з казачным, рэчаіснае з фікцыйным. Паэт бачыць наднёманскія палі, глухія пушчы, курганы, лугі, крыніцы, птушак. Усё гэта змяшчаецца ў беларускай рэальнасці, у рэчаіснасці. Але побач з гэтымі праўдзівымі з'явамі паказвае аўтар і з'явы фантастычныя, баладныя. Гаворыць аб касцях бедака, якія глядзяць з магілы. Да поўнага ірацыяналізму даходзіць у пятай страфе верша:

*Ночкай ля рэчкі раздольна,*
*прывольна!*
*Гуртам русалкі смяюцца, пяюць;*
*Кветкі купальскай шукае бяздольны;*
*З зеллем шаптухі паціху снуюць...*

Аўтар, несумненна, свядома мяшае праўду з казкай, рэальнасць з выдумкай. Для ссыльнога паэта айчына гэта не толькі прырода, людзі, рэальны побыт, але і родная песня і казка. Словам, усё тое, што складае матэрыяльны і духовы быт народу.

Характэрныя тры перадапошнія страфы верша „Ночныя думкі". Наколькі ўсе папярэднія былі формай ўяўлення паэта аб Беларусі, настолькі ў трох перадапошніх Гарун пераходзіць ад уяўленняў да пажаданняў. Хоча ён апынуцца ў Беларусі, стаць неаддзельнай яе часткай, прагне ўвасобіцца ў крыніцу і назаўсёды ўліцца ў зямлю радзімы.

*Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,*
*Бераг вадой абмываць, цалаваць;*
*Дай мне век цэлы дружыці з табою,*
*Хвойкі і зоры ў сябе адбіваць.*

У вершы „Журба" імкненне да аб'яднання з краем адыходзіць ад алегарызму, выліваецца ў рэальныя формы. Паэт заяўляе, што ў роднай краіне хацеў бы заняцца канкрэтнай фізічнай працай:

*Я б узяў матыку ў рукі,*
*Карчаваў бы, чысціў поле.*

Мара аб айчыне амаль заўсёды ў Гаруна спалучана з разважаннямі аб спосабах, шляхах вяртання да яе. Тут Гарун вельмі часта карыстаецца алегорыяй. Бадай што нідзе паэт не гаворыць аб рэальных тэхнічных сродках перамяшчэння з Сібіры ў Беларусь, заўсёды прадстаўляе гэтую справу ў паэтычным іншасказальным аспекце. Бадай, найчасцей Гарун марыць аб звароце ў Беларусь пры дапамозе крыл. У вершы „Вясна" ён піша:

*Ах каб крылле, крылле мне*
*І той лёт гусачы,*
*Я прапаў бы ў гарыне,*
*Хто б мяне і бачыў!*

*Раз у пораз, раз ураз,*
*У неба б біў крыламі...*
*Гусі, гусі, я да вас,*
*Я ляту за вамі.*

Матыў вяртання ў Беларусь пры дапамозе крыл, — на гэты раз арліных, — выступае таксама ў вершы „Эх, сягоння ў гэту ночку". Верш гэты аднак прапануе і іншыя „спосабы" вяртання. Паэт гаворыць, што ён увасобіцца ў воўка, у вужа, урэшце ў зорку, каб такім чынам дабегчы, дапаўзці, даляцець да радзімы.

Сібірскія вершы Гаруна сведчаць аб тым, што думка аб айчыне, імкненне да айчыны, мара аб свабодзе айчыны ніколі не пакідалі паэта. Па сутнасці ўсе сібірскія вершы маюць характар сумны, элегійны, песімістычны. Выключэннем з'яўляецца верш „Вяселле".

*Гэй гуляй, не сумуй,*
*Не глядзі панура!*
*Заспявай ды зайграй,*
*Загудзі віхурай!*

*Грошы ёсць! Сала ёсць!*
*Бутэль манапольскі...*
*Ты не стой, трунак свой,*
*Пі, гуляй дый толькі!*

Адкуль такая бадзёрасць у ссыльнога? Чым вытлумачыць праяў такой весялосці? Справа ў тым, што ў гэтым вершы няма па сутнасці ні бадзёрасці, ні весялосці. Радасць тут уяўная, знешняя, фікцыйная. Мае яна іранічны характар.

Сем гадзін раніцы. Да аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гайнаўцы пад'ехаў аўтобус „Турыст". Гэтай прыгожай машынай 23 ліпеня выехалі на экскурсію настаўнікі беларускай мовы, актывісты БГКТ.

Першым горадам, у якім спыніліся, была Варшава. Потым Радам. Пасля невялікага адпачынку накіраваліся ў Кракаў. Экскурсавод паказаў унікальныя старажытнасці Кракава. Тут сапраўды было на што паглядзець!

Наведалі саляныя шахты „Вялічка". Далей — маршрут у Закапанае. Ішоў дробны дождж, але ён не перашкодзіў падзівіцца на прыгажосць Татраў.

Экскурсаводам з'яўляўся Юзэф Плута, дырэктар школы № 1, па спецыяльнасці гісторык. Вельмі сімпатычны і сардэчны чалавек. Калі ён даведаўся,




што наша група — гэта лепшыя настаўнікі Гайнаўшчыны, зрабіў усё, каб пазнаёміць нас з Закапаным і ягонай цудоўнай ваколіцай. За гэта сардэчнае дзякуй пану Юзэфу Плуту.

Наша група наведала Пароніна, Ленінскі музей. Гэта былі незабыўныя хвіліны: тут некалі жыў і працаваў вялікі правадыр.

У далейшым — мы пабывалі ў былым Асвенцімскім канцэнтрацыйным лагеры, у якім нямецкія фашысты загубілі мільёны людзей з усяе Еўропы. Гэта быў самы вялікі канцлагер. У адлегласці шасці кіламетраў ад Асвенцімскага — знаходзіўся Бжэзінскі лагер. Цяжка апісаць тое жахлівае ўражанне, якое засталося ў кожным з нас пасля наведвання гэтых лагераў смерці!..

Зноў рушылі ў горы, глядзелі маляўнічыя краявіды, аселыя ў цяснінах гор вёсачкі і паселішчы. Даехалі да Дамянаўскіх пячораў, што ў Нізкіх Татрах. Найбольш вядомая тут пячора Свабоды з некалькікіламетравым падземным калідорам, чароўнымі сталактытамі, азерцамі і бурлівым патокам. Адно з падземных месц называецца Польскі дом.

Трэба сказаць некалькі цёплых слоў і ў адрас салістаў, дуэтаў, квартэтаў, тэрцэтаў, якія вылучыліся сярод 46-асабовай групы падарожнічаючых настаўнікаў з Гайнаўшчыны. Пад кіраўніцтвам Аляксея Харкевіча звонка гучалі беларускія песні ў татранскіх далінах, з вокан імклівага аўтобуса.

Усіх зачараваў сваім голасам саліст Сцяпан, які выконваў цудоўныя беларускія песні. Яму доўга апладзіравалі ўдзельнікі нашай экскурсіі.

У Гайнаўку вярнуліся мы апоўначы 28 ліпеня, дзе сустрэў нас навальнічны дождж.

Гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з асветнымі ўладамі зноў рыхтуе цікавыя формы адпачынку для лепшых настаўнікаў, якія з'яўляюцца дзеячамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**Віктар Бура,**
Гайнаўка

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

ЛЮБОЎНАЯ




*Світы, світы, місычэньку,*
*світы, ясная зора.*
*Світы тэю гуліцэю*
*до дыўчыны, до двора,*
*світы тэю гуліцэю*
*до дыўчыны до двора*
*Ой, до двора ны до двора*
*водыў коня до воды.*
*До дыўчыны потрыматы*
*за шоўковы поводы,*
*до дыўчыны потрыматы*
*за шоўковы поводы.*
*Хібнулася крайня кладка —*
*пошоў мілы аж на дно,*
*хібнулася крайня кладка —*
*пошоў мілы аж на дно.*

*— Ой, вы хлопці-рыболоўці,*
*закідайтэ, нэводы.*
*Закідайтэ, вытягайтэ*
*мого мілого з воды,*
*закідайтэ, вытягайтэ*
*мого мілого з воды.*
*— Мы нэ будэм закідаты,*
*мы нэ будэм вытягаты,*
*бо ўжэ тая быстра рычка*
*гушчарэю заросла,*
*бо ўжэ твого міленького*
*ў далекі край занэсла.*
*ў далекі край, ў далекі край,*
*ў чужую сторону,*
*ў далекі край, ў далекі край,*
*ў чужую сторону.*

Ад Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.
Песня спявалася часцей за ўсё на „кудзельніцах".

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ВАСІЛЬ ШПІЛЬКО

Добрым працалюбівым гаспадаром і выдатным грамадскім дзеячом з'яўляецца селянін Васіль Шпілько з Дубічаў Асочных Гайнаўскай гміны. Атрымлівае ён высокія ўраджаі пшаніцы, ячменю і рапсу (рапаку). Рапс сее на чатырох гектарах, пшаніцы („міраноўская") і ячменю („дамазы") па тры гектары. Збірае ў сярэднім 22-26 цэнтнераў рапсу, 30 цэнтнераў пшаніцы і 36 цэнтнераў ячменю з гектара зямельных угоддзяў. В. Шпілько асабліва задаволены з ячменю. Патрабаваў ён ад гаспадара асаблівага догляду, але затое і ўраджай быў вялікі.

Усе палявыя работы Васіль Шпілько механізуе. Мае ўласны трактар, снопавязалку, бульбакапалку, два сеўнікі, культыватар і іншыя неабходныя на гаспадарцы машыны.

Гадуе ён найбольш кароў і цяпер мае іх 12 штук. Прадае ад іх 21 тысячу літраў малака ў год.

З думкай аб павелічэнні гадоўлі кароў вопытны земляроб пабудаваў дзве стадолы, у тым ліку адну мураваную. Апрача таго, мае ён 4,5 га зялёных угоддзяў, электрычнага пастуха і даволі вялікі сілас. Усе пасбішчы добра дагледжаныя, з выдзеленымі кватэрамі дзеля рацыянальнага выпасу. Сена і сочных кармоў нарыхтоўвае шмат. Вядома, што лета збірае, зіма праядае.

Дубіцкі гаспадар Васіль Шпілько апрача таго, што вядзе 12,5-гектаровую гаспадарку, знаходзіць яшчэ час на грамадскую дзейнасць. Ён выконвае абавязкі гміннага раднага (займаецца ў сельскагаспадарчай камісіі гайнаўскай гміннай управы), намесніка начальніка мясцовай пажарнай стражы і шмат іншых.

— Не ведаю, чаму пацягнула мяне заняцца грамадскай працай, — кажа В. Шпілько. — Але, пэўна, тое, што для мяне мала таго, што меў дагэтуль. Ды жыццё маё цяпер куды паўнейшае і цікавейшае.



Як грамадскі дзеяч В. Шпілько дапамог аднасяльчанам уладкаваць некаторыя агульнавясковыя справы, уклаў нямала намаганняў у пабудову стражацкай рамізы і г.д.

За актыўную работу ў супрацьпажарнай галіне Васіль Шпілько ўзнагароджаны медалем прыкладнага пажарніка, медалем X-годдзя ОСП і дыпломамі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

З-ЗА ПЛОТУ

### „КАБ ЗЯМЛЯ ТВАЕ КОСЦІ ВЫКІНУЛА"

Непадалёку ад Сакоў, што на Бельшчыне, ёсць невялічкі пагорак, на якім (відаць гэта па захаваных крыжах) знаходзіліся некалі могілкі. Калі і чаму паявіліся яны ў вёсцы, у якой няма і не было царквы, дакладна невядома. Крыжы таксама гавораць нямнога. На самым старэйшым віднее выкутая дата „1872 октября 7". Гэта значна пазнейшая дата ў параўнанні з тым, што гавораць старыя людзі. Праўдападобна, даўным-даўно (ведаюць яны толькі з пераказаў бабулек ці дзядоў, якім пераказалі іх бабулькі і дзяды) у вёсцы панавала страшэнная зараза, халера. Не было такога дня, каб хтосьці не паміраў. Людзей жа трэба было недзе хаваць. Ну, і выбралі месца за вёскай.

— Многа, пэўна, памерла тады людзей? — пытаюся ў сваёй бабулі.

— І больш бы памерла, каб не адно.

— Гэта значыць што?

— А вось што. Прысніўся адной жанчыне сон. Калі б напрасці і выткаць за адну ноч ручнікі, ды закапаць іх у абодвух баках вёскі, ды паставіць на тым месцы крыжы, то хвароба перастане мучыць людзей. Так і зрабілі. Толькі крыжы тыя не захаваліся. Новыя цяпер паставілі. Гадоў пятнаццаць таму назад было тут яшчэ чысценька, не было ніякіх раскопаў. На гэтым месцы жыхары вёскі сустракаліся два разы ў год і супольна праводзілі час. Першы раз — пасля заканчэння абраднага абыходу палёў. Пакуль увойдуць у вёску, заўсёды прыходзілі сюды адпачываць. У час адпачынку спявалі песні. Другі раз — у чацвер, які мясцовыя жыхары завуць „Зэленэць". Прыходзілі тады пераважна жанчыны. Зрывалі яны тут (згодна з іх перакананнем) лекавыя травы ды кветкі. Потым спляталі іх у невялікія вянкі, якія неслі ў нядзелю ў царкву свянціць.

Могілкі, а дакладней вада, якая збіралася ў крыжавым камені, была, згодна з перакананнямі людзей, лекам ад хвароб скуры. А камень такі, над якім стаяў некалі крыж, захаваўся да сёння.

— Ці гэта праўда, што тут страшыла? — зноў пытаю бабку.

— Каб страшыла — не чула, але даўным-даўно было такое здарэнне. А было гэта так...

І тут я пачуў цікавую гісторыю.

Даўней моладзь часта збіралася на вечарынкі. Дзяўчаты пралі кудзелю, хлопцы ігралі ў карты. Седзячы так аднойчы, пачалі гаварыць пра страхі. Адна дзяўчына, якая ў іх не верыла, заспорыла з хлопцам, што ў $12^{00}$ ночы абяжыць тры разы вакол могілак ды прынясе жменю пяску. Ну, і пайшла. Абегла раз, другі — нічога. Бяжыць трэці раз, аж бачыць — стаіць нехта на каленях. Яна, нічога не гаворачы, лап за шапку ды ходу дамоў. Думала, што той хлопец прыйшоў яе страшыць. Як прыбегла, так і абамлела. У руках у яе аказалася паповая шапка. На другую ноч у $12^{00}$ гадзін стукае нехта ў дзверы ды кажа: „Аддай маю голаў". Бацька выносіў, маці выносіла — не бярэ. Пайшлі пытаць у царкву. Там і параілі ім. Надзела яна на голаў гліняную міску, у рукі ўзяла грамнічную свечку ды пачала чакаць. Калі пастукаў, яна адчыніла трошкі дзверы і прасунула праз шчыліну шапку, а ён яе тады лап за голаў. Каб не міска, голаў абарваў бы. Так яна і памерла з перапалоху.

— Ніколі нельга спорыць, — канчае бабуля.

— А ці гэта праўда, што тут скарб закапаны?

— Праўдападобна так, — гаворыць Ахрымюк Аляксандр.

Рознае людзі гавораць на тэму гэтага скарбу. Праўдападобна, могілкі гэтыя помняць яшчэ „шведскі патоп". Гавораць, што быў тут забіты і пахаваны шведскі палкоўнік, а з ім залатыя пояс, меч і грошы.

Так, цікавая гэта гісторыя. Прайшлі тыя часы. На высокім узроўні цяпер культура. Прайшло, няма, не трэба. З усіх бакоў раскапалі цяпер гэтыя могілкі. Пясок бяруць, бульбу хаваюць і так капаюцца. Часта можна знайсці частку чалавечага чэрапа, а калі добра пашукаць, то і цэлы шкілет. Асабліва на вясну, як пясок на панадворкі пачнуць вазіць. Тады многа панавыкопваюць.

Ну і праклён нехта кінуў на людзей, што аж цяпер зямля косці выкідае. А можа гэта Сакі скарбаў шукаюць?

**Міхась Шаховіч**

## Настаўнікі беларускай мовы з Беласточчыны — у Мінску

Ужо дваццаць першы раз настаўнікі беларускай мовы пабывалі ў ліпені на ўдасканальваючым курсе роднай мовы ў сталіцы Беларусі горадзе Мінску.

Апрача лекцый па беларускай мове, літаратуры і методыцы ўдзельнікі курсу знаёміліся з Мінскам і ваколіцамі, наведвалі музеі, пабывалі ў тэатрах. Апекуны курсу, выкладчыкі Педагагічнага інстытута Ніна Васільеўна Гаўрык і Тамара Мікалаеўна Трыпуціна паклапаціліся аб тым, каб удзельнікі курсу ўбачылі ўсё, што прывабнае і цікавае ў беларускай сталіцы.



*Беларускія настаўнікі з Беласточчыны ў Хатыні.*

Незабыўнымі застануцца таксама паездкі на радзіму вялікіх беларускіх песняроў — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У памяці настаўнікаў назаўсёды будуць жудасная маўклівасць і званы Хатыні.

Мінскі курс беларускай мовы з'явіўся добрым, карысным і творчым падарожжам для настаўнікаў з нашых школ на Беласточчыне.

**Мікалай Варанецкі,**
Альхоўка

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Смярдзючы прыпынак

Цяпер, як гэта вядома ўсім тым, хто ездзіць аўтобусамі ПКС, у вёсцы будуюць па два прыпынкі, левы і правы. У Паўночным Востраве прыпынак ПКС у напрамку Беластока размешчаны, як належыцца, зводдаль ад скрыжавання вясковай вуліцы з шашою. Толькі чаму якраз каля свінагадоўчай фермы? Ці для жарту? Ці дзеля таго, каб людзі добранька нанюхаліся смуродаў ад паўтысячнай чарады свіней і, выехаўшы ўрэшце ў Беласток, адчулі ўсе прывабнасці і чары гарадскога побыту?..

Добразычліўцы з суседняга Астроўка раяць астраўлянам разабраць гэты прыпынак і напісаць скаргу... аж у Варшаву. Там справядлівыя ўраднікі заступяцца за пакрыўджаных смуродам астраўлян. Кажуць, так зрабілі нядаўна ў тым жа адважным Астроўку... Думаецца, аднак, што можна дабіцца справядлівасці і ў беластоцкай дырэкцыі ПКС. Трэба толькі пачаць дабівацца яе. Найлепш было б запрасіць у Паўночны Востраў каго з начальнікаў той жа дырэкцыі, каб ён сам, асабіста, панюхаў... Панюхае і згодзіцца.

**(СЯ)**




**Ці варта?**

*Ці варта*
*яшчэ цябе кахаць*
*і слухаць*
*тваіх салодкіх слоў*
*ці варта*
*прыняць тваё сэрца*
*і верыць*
*яму як сяброўцы*
*ці варта*
*яшчэ сказаць табе*
*дай руку*
*каб пайсці да неба*
*ці варта*
*адкінуць каханне*
*якое*
*ціснецца на вусны?*

**Жэня Аўсенюк,**
**Эканамічны ліцэй у Бельску**

**ІХ ДВОЕ**

Вузлы рук
лётаючых пад небам
Дыбы ног
што брук
цалавалі
Сонца вочы
Губы рэкамі пурпуры
у іх утапіўся Амур
хаця
яна не Капулет
не Мантэк ён.

**Юрка Хмялеўскі**

мог ляцець супраць ветру са скорасцю да 40 кіламетраў у гадзіну. У час першай сусветнай вайны дырыжабль стаў адным з асноўных відаў зброі, і Германія шырока выкарыстоўвала гэтыя апараты для налётаў на Англію.

Для будаўніцтва дырыжабля „ЛЦ-129“, які атрымаў імя „Гіндэнбург“, быў узведзены вялікі ангар. З дзюралюмінію былі адліты бэлькі агульнай даўжынёй 15 кіламетраў, з якіх быў выраблены каркас дырыжабля. Гэтыя бэлькі, замацаваныя абручамі вышынёй з 14-павярховы дом, нагадвалі шкілет нейкай фантастычнай пачвары. На яго неўзабаве нацягнулі шкуру — шчыльную парусіну, узмоцненую пяццю пластамі сілону з сярэбранай ніткай для адбіцця сонечнага цяпла. У сярэдзіне парусіна была пафарбавана ў чырвоны колер, які не прапускае ультрафіялетавыя промні; 16 гіганцкіх абручоў раздзялялі корпус карабля на адсекі, кожны з якіх напаўняўся газам.

Камеры для газа выраблялiся з парусіны, абшытай знешняй мембранай тоўстых кішак быка. У кожным адсеку было прыстасаванне для рэгулявання ціску. У камеры змяшчалася 200 тысяч кубаметраў вадароду. Гэтага хапала для таго, каб падняць груз вагой 236 тон. З сярэдняй хуткасцю каля 130 кіламетраў у гадзіну поўнасцю загружаны „ЛЦ-129“ нёс дадаткова гаручага для палёту на 15 тысяч кіламетраў, які займаў 5-6 дзён.

**(Працяг будзе).**

## Зялёнае багацце

Яшчэ шмат у нас такіх гаспадароў, якія не маюць дзе пасвіць кароў, або накасіць сена.

Але ў нас вельмі многа балоцістых сенажацяў, якіх даўно ўжо ніхто не косіць і не пасе на іх жывёлу. Давялося мне ўбачыць сенажаці ў далінах рэк Супраслі, Сакалды, Слоі. Ідучы ад вёсак Радулін і Залукі ў напрамку Валілаў, бачыш дзесяткі гектараў някошанай травы. У даліне рэчачкі Коматаншчына знаходзяцца цэлыя кіламетры некранутых касою сенажацяў вёсак Гураны, Плянты-Свідзілаўка і Грыбоўшчына. У даліне другой жа рэчкі, Сенажадкі, знаходзяцца сенажаці далейшых вёсак, запалянскіх, такіх, як Сукавічы. Над Сенажадкаю даўно ніхто не бачыў касца.

Гэтыя „зялёныя“ рэзервы растуць ды дзічэюць. Многія старыя гаспадары, не маючы каго пакінуць на гаспадарцы, перадаюць яе ў дзяржаўны зямельны фонд і ўзамен атрымоўваюць рэнту. Некаторыя выязджаюць у гарады, пакідаючы свае назаўсёды. А некаторыя, сечучы траву паблізу сялібы і сіласуючы яе на зіму, ужо не маюць сілы ездзіць касіць далёкія лугі ды лясныя сенажаці.

Гэтыя зялёныя рэзервы не могуць так марнавацца. Трэба, каб ваяводскія ўлады прадумалі комплекснае асваенне іх на карысць нашай сельскай гаспадаркі.

**Т. К.**

## Марыся Харкевіч



Марыся Харкевіч — з вёскі Ляшукі, што на Гайнаўшчыне. У час канікулаў яна дапамагае сваім бацькам. З'яўляецца вядомым актывістам Беларускага грамадска-культурнага таварыства і супрацоўнічае з яго аддзелам у Гайнаўцы. **В. Б.**

## Грынашкевіч заняўся авечкагадоўляй

Сухім Грудом называецца мясціна ў Шудзялаўскай гміне, дзе жыве Г. Грынашкевіч. Ён пераканаўся, што найбольш яму аплачваецца гадоўля авечак. У яго іх цяпер каля васьмідзесяці штук, у тым ліку сорак матак. Сваю чараду авечак ён намераны павялічыць да ста штук.

Зямля мая, кажа Грынашкевіч, пятага і шостага класаў. Мае яе каля трыццаці пяці гектараў.

Сее авёс і лубін на корм. Сёлета ён пабудаваў сілас.

**Я. Бандарук**

## Падзівіліся з высокай гары

Вёска Іванава знаходзіцца недалёка ад ракі Нарвы. У мокры год вада залівае тут лугі, і ў гаспадароў тады вялікія страты. У гэтым годзе з вясны доўга нельга было пасвіць кароў. Яны стаялі ў хлявах. Падчас сенакосаў зноў пачалася паводка. Не сабралі ўсяго сена.

Людзі напісалі ў ПЗУ просьбу аб выплаце страхоўкі за сена. Прыехалі з таго ПЗУ, падзівіліся з высокай гары на спусташэнні і паехалі сабе. Потым прыехалі яшчэ раз, добра агледзелі ўсё і сказалі, што прыедуць лічыць страты. Але на гэтым усё і зацiхла.

Нядаўна зноў прыйшлі вялікія дажджы, якія залілі лугі і пасбішчы. Няма дзе пасвіць жывёлу. Што рабіць: выводзіць каровы на рынак і прадаваць іх? За што купіць ім сена на зіму?

**Зося Андрэюк,**
Іванава

## Прыкладны гаспадар

У Зубаве адным з лепшых гаспадароў з'яўляецца Уладзімір Паўлючук.

У яго — новы, вельмі прыгожы аднапавярховы дом з жалезнай агароджаю, добрыя гаспадарчыя будынкі, уласны трактар з патрэбнымі машынамі. Ён спецыялізуецца ў пчалаводстве: мае пяцьдзесят вулеяў.

Паўлючук гадуе шмат свіней, якія прадае на базе скупкі жывёлы. Сёлета ён першым закупіў даілку, надта ж прыдатную ў доглядзе кароў.

У 1972 годзе Уладзіміра Паўлючука, як прыкладнага гаспадара, узнагародзілі медалем.

**Кацярына**

## Храбалы

Храбалы — вёска, што знаходзіцца каля бельскай шашы. Тут ёсць аўтобусны прыпынак. Адсюль лёгка дабрацца ў Бельск або Беласток.

У Храбалах знаходзіцца таксама гмінная школа, размешчаная па хатах. У ёй вучацца дзеці і з Кнаразоў, і з Рыпнева, і з Малых Грынявіч, з Дзянісак ды Гацькаў.

У гэтай вёсцы знаходзіцца СОП, пошта, гмінная ўправа, база скупкі жывёлы, крама, кіёск, цэнтр аховы здароўя, склады мінеральных угнаенняў і корму.

**Жэня Андрэюк**

## Крынкаўскае зямляцтва

Адбываецца падрыхтоўка да стварэння Крынкаўскага зямляцтва — арганізацыі жыхароў і выхадцаў з мястэчка Крынкі і ваколіцы.

Па ініцыятыве Вячаслава Пратасевіча і Яся Пуля ўтворана Ініцыятыўная група, якая падзялілася на тры камісіі: праграмную, статутовую і арганізацыйную.

Арганізацыйны з'езд Крынкаўскага зямляцтва прадбачаны ў лістападзе г.г. Арганізатары зямляцтва звяртаюцца да шматлікіх выхадцаў з Крынак, што рассеяны па ўсёй краіне, падтрымаць гэту ініцыятыву. Усялякую карэспандэнцыю трэба кіраваць па адрасу Гміннай управы ў Крынках, паштовы нумар 16-120.

**Сакрат Яновіч**

## Пасля жніва

Жніво ўжо закончылася. Сёлета яно не было такім цяжкім: гаспадары менш сеялі жыта. З жытам былі турботы: не паспелі зжаць яго, як пачаліся дажджы. Яно парасло ў снапах...

Менш турбот было з ярынoю, хаця сёлета было яе больш, чым звычайна. Таму больш, што, з увагі на мінулагоднія дажджы, цяжка сеялася азіміна. У гэтым годзе многа яравой пшаніцы.

Ярыну некаторыя гаспадары касілі або жалі нават сярпамі, бо на размоклае поле не маглі ўехаць сельскагаспадарчыя машыны. У Галадах не было бяды з атрыманнем кожнай машыны, бо запатрабаванне на іх, з увагі на размокласць палёў, было значна меншае. Былі скаргі на трактарыстаў, напрыклад, аднаго такога з Парцава, які жаў 25 мінут, але напісаў, каб плаціць яму за 40 мінут — а хацеў нават за дзве гадзіны ды „злітаваўся“ ён над гаспадаром І. Б., які, відаць, вельмі прасіўся... Думаю, што такія ганебныя ўчынкі не павінны мець месца.

**Валянцін Анапюк**




**Чытач з Эльблонга.** Пры нагодзе пабыўкі ў Беластоку просім наведаць нашу рэдакцыю. Прапанаваныя вамі матэрыялы цікавяць нас.

**Вечаслаў Савіцкі, Гарадок.** Дзякуем за заўвагі наконт друкаваных у „Ніве“ карэспандэнцый. Прапануем Вам дасылаць у „Ніву“ уласныя карэспандэнцыі. Будзем друкаваць.

**Зося Андрэюк, Іванава.** Апісанай Вамі справай мы зацікавілі старшага інспектара Ваяводскага аддзела ПЗУ грам. Юзэфа Сулеўскага, які запэўніў нас, што неадкладна высветліць непаладкі, звязаныя з выплатай страхоўкі за сена.

**Ніна Гаўрылюк, Ягаднікі.** Вашу карэспандэнцыю „Пагулянка запрашае“ не можам, на жаль, надрукаваць. Была б яна незаслужана крыўднай таму чалавеку, якога вы апісалі.

Пішыце больш.

## Не змяняюць святла

Немалой бядой на дарогах Гайнаўшчыны з'яўляюцца матаралерысты, якія ў большасці не ведаюць правілаў дарожнага руху. Уначы яны не змяняюць доўгага святла на кароткае, калі трэба з кімсьці мінуцца... Доўгім святлом яны асляпляюць шафёраў і матацыклістаў. Гэта асабліва небяспечнае, калі шашою ідуць яшчэ і людзі. Дарэчы будзе зазначыць, што і нашы пешаходы таксама не прызвычаены ісці пабочынаю дарогі, трэба абмінаць іх.

**Я. М.**

## Шафёр-нядбайла

Трэцяга жніўня аўтобус ПКС з рэгістрацыяй АО-88-04 ад'ехаў з Гайнаўкі ў Кляшчэлі а 7-ай гадзіне 39 хвілін, замест у 7[49]. Хто разлічваў на пунктуальнасць шафёра таго аўтобуса, той моцна расчараваўся. Напрыклад, Янка Шыманюк выбраўся з сям'ёю ў дарогу, а гэты аўтобус узяў ды ўцёк яму амаль перад самым носам... Давялося хапаць таксі і, быццам у нейкім гангстэрскім кінафільме, даганяць аўтобус АО-88-04. Дагнаў на прыпынку ў Ягадніках.

Па віне шафёра-нядбайлы чалавек патраціў дадатковыя грошы на таксі.

**Раса**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Сакратар бюро Гміннай управы ў Гарадку Вечаслаў Савіцкі піша да нас:**

W związku z notatką prasową w sprawie budowy piekarni w Gródku zamieszczoną w „Niwie" z dnia 10 sierpnia b.r. Urząd Gminy wyjaśnia co następuje.

Starania o rozpoczęcie budowy nowej piekarni w Gródku były czynione od dłuższego czasu. Formalności z realizacją tej inwestycji były załatwione w latach 1973/74, jednak poważną przeszkodą była sprawa braku wykonawcy.

Przyśpieszenie rozpoczęcia budowy było głównym tematem, który niejednokrotnie absorbował uwagę władz politycznych i administracyjnych gminy. Jednak ówczesny szczebel powiatowy nie był w stanie pozytywnie rozwiązać tego problemu.

W roku bieżącym po wielu staraniach i interwencjach ze strony władz miejscowych oraz GS — sprawa ta ruszyła. Obecnie w miesiącu lipcu rozpoczęto budowę nowego obiektu piekarni. Wykonane zostały już fundamenty i jest na ukończeniu budynek gospodarczy. (...)

**А вось тлумачэнні начальніка Нараўкаўскай гміны Ёсіпа Навіцкага:**

Urząd Gminy w Narewce udziela wyjaśnień w sprawie remontu świetlicy w Siemianówce.

W wyniku reformy administracji państwowej Urząd Gminy w całości przejął sprawy związane z remontem wyżej wymienionego obiektu. Opracowaliśmy dokumentację techniczno-kosztorysową na remont kapitalny na sumę 308 304 zł. Wystąpiliśmy z wnioskiem do Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku, do Wydziału Kultury i Sztuki, o wprowadzenie do planów remontów obiektów kulturalnych na rok 1976. (Pismo z naszym znakiem: BW-27/7/75 z dnia 24.07.1975 r.) Według zapewnień wydziału szczebla wojewódzkiego potrzebne środki zostaną zabezpieczone. Wstępnie zapewniliśmy wykonawcę, którym ma być Spółdzielnia Rzemieślnicza w Hajnówce.

Oddanie świetlicy do użytku przewidujemy w IV-tym kwartale 1976 r.

### ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Раніцай восьмага жніўня на скрыжаванні вуліц Варынскага і Ліповай у Гайнаўцы матацыкліст Анатоль З. ударыў у фурманку. Найбольш пацярпеў пасажыр Анатоля З., якога давялося хутка адвезці ў бальніцу.

Дзесятага ж жніўня іншы матацыкліст, Васіль С. з Козлікаў, на скрыжаванні дарог у Гародчыне ўдарыў у трактарную прычэпу. Было гэта позна вечарам. Васіля палажылі ў гайнаўскую бальніцу.

Раніцай таго ж дня ўтапіўся ў Сідарцы Вітальд Ф. з Астравоў. Ён вяртаўся з грыбоў і задумаў пераплысці рэчку, каб мець бліжэй дахаты.

Адзінаццатага жніўня на досвітку Мікалай К. з Беластока папаў пад колы голдапскага цягніка, які рушыў з беластоцкага вакзала. Мікалай К. загінуў.

Дванаццатага жніўня ў Бельску пагарэў Барыс С. Вартасць спаленай клуні і сельскагаспадарчых машын ацэньваецца на дзевяноста тысяч злотых.

„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



 

